ББК 84 Бел7
Ж85

Рэцэнзент

*Мікола Маляўка*

Вырос новый читатель, новый слушатель, изменились вкусы людей. Произошла трансформация наших стереотипных представлений. Но стал ли человек добрее и чище в своих намерениях или более черствым и запрограммированным? Над кругом этих проблем размышляет автор в своей новой книге «Земная ноша».

Ж $\frac{4702120200-006}{М 302(03)-88}$ 46—88

ISBN5-340-00046-x

* * *

*Нарадзіцца нанова на свет*
*З кожным вершам,*
*радком,*
*з кожным словам...*
*Нарадзіцца — нібы першацвет,*
*Нібы парастак з глебы вясновай.*

*Хай ізноў апячэ аж да слёз*
*Зімні ранак ці сонца залева,—*
*Паяднаю высокі свой лёс*
*З белай птушкаю,*
*воблакам,*
*дрэвам...*



* * *

Дайсці да запаветнай далі...
*Яніс Петэрс*

Ракою быць, што ў мора мкне...
Быць птушкай, што ляціць дадому...
Аленем, што не знае стомы...
Вясною, што гудзе ў сасне...
Заранкай, што вяшчае дзень...
Прылівам, што ўздымае хвалі...
Дайсці
Да запаветнай далі —
І... на жыццё памаладзець!

## КАСМАЛЁТ

Між зор і мы ляцім на караблі,
На дасканалым самым у Сусвеце.
Тысячагоддзяў
Гадаванцы-дзеці,
Не ўсе мы ўдзячны матухне-Зямлі.

Не ўсе яе шануем, як сыны.
Не ўсе з сяўнёй,
Не ўсе з памкненнем шчырым:
З рук аднаго —
ўзлятае голуб міру,
А з рук другога —
груганы вайны.

Хто пераможа?
Голуб — ці груган?
Смех дзетак— ці крылатая ракета?
Дамоклаў меч
павіс над светам,
Які трымае ў страху ўсіх зямлян.

А карабель ляціць. Аўтапілот
Вядзе яго
між зорнае гушчэчы.
І боязна
За лёс наш чалавечы.

Ляці ж у заўтра мірна, касмалёт.

## ЧУЮ ТВАЁ ІМЯ...

Чую тваё імя
У шуме бароў, Айчына,
У песні, калі шчымяць
Грамы́ ў горле шпачыным.
Чую тваё імя,
Светлае,
Як расіна.
Ведаю,
Годней — няма.
І родней няма, Айчына.
Не перадаць нічым
Радасці: быць часцінай
Долі тваёй...



* * *

Схлынь, зацятасць!
                              Млявасць,— схлынь!
Хай бурляць радкі ракою!
Я абраў такую плынь,
Дзе зусім няма спакою.

Можа, вынесе на плёс...
Можа, у віры засіле...
Лёс — і радасны да слёз,
І пакутны — да бяссілля.

Мрою —
Хоць гады ў рады
Спасцігаць глыбіні, высі...
Мне, як рыбе без вады,
Без разваг — не абысціся.

І прыходзяць, як заўжды,
У роздум мой — Купала, Колас...
І ўжо трызніць песняй голас
Малады...

## ПАДЛЕТКІ

Падлеткі, яшчэ вы — падлёткі
Пад крыллем у маці-Радзімы.
А вашы калісь аднагодкі —
Пад кулі не раз хадзілі...

Стаялі ля домнаў гарачых.
Бетон залівалі ў падмурак.
Здароўем плацілі дзіцячым
За мужнасць — жыццёвую мудрасць...

Падлеткі, яшчэ вы — падлёткі.
А ў свеце — ізноў неспакойна:
Эсмінцы,
лінкоры,
падлодкі
Снуюць вакол нас, як драконы.

Стараецца нехта рукаты
Дастаць да Масквы, да Урала...
Гуляюць у войны, бы ў карты,
Палітыкі і генералы.

Падлеткі, яшчэ вы — падлёткі.
Але ўжо без мала — мужчыны.
І вам
час надзене пілоткі,
Дазорнымі зробіць Айчыны.

У век бамбавозны, пагрозны,
Ракетнаю мечаны зброяй,
Хачу я,
каб вашыя вёсны —
Не сталі зямлёю сырою.

## ВЕ́СЦІНА
## Ў ДЗЕНЬ НАРАДЖЭННЯ

Пагодна стала на душы:
І сонечна, і весела.
Пабыць жа хочацца ў цішы —
Прыйшла ад мамы весціна.

Зноў перачытваю пісьмо.
Чытаю — і не верыцца...
Наведацца б цяпер дамоў,
На міг адзін наведацца!..

Я сёння, пэўна, не засну,
Натхненне — так і весніцца!
У дваццаць пятую вясну
Пастукалася весціна.



## БАЦЬКОЎСКІ САД

Бацькоўскі сад... Ён мне напамінае
Святочны храм,
Дзе музыка лунае.

Тут чуцен спеў аргана ў гушчары,
Басэтлі звонкай
Ладны гуд чмяліны.
Завітвайце часцей сюды, сябры,
Абгаварыць — і выслухаць навіны.

Бо тут — такая музыка гучыць,
Такія спалучаюцца акорды,
Што хочацца на свеце жыць і жыць,—
Не знаць тугі не месяцы,
А годы.

Спявай, спявай зычней, вясновы сад!
Бацькоўскі сад! Маленства сад шыкоўны!
Як хлапчанё, вітаць заўсёды рад
Шпакамі абгуканыя шпакоўні.

Нібы язычнік, на цябе гляджу —
І адчуваю дух святы лістоты.
І ў неба — для цябе малю дажджу.
І ў сонца — светлых дзён малю употай.

Гары! Гары, зялёных дрэў касцёр!
Я водарам прапах — як мёдам поплаў.
Ты мне гасцінна рукі распасцёр,
Як ліўням распасцёрла рукі — поле.

## КАМСАМОЛЬСКАЯ ПУЦЁЎКА

Камсамольская пуцёўка.
Гарадок — з шасці палатак.
І рабочая спяцоўка
На памер велікавата.

Ні сцяжынкі, ні дарогі,
Кожны крок — прапахлы ветрам:
Ім кладзе тайга пад ногі
Кіламетр за кіламетрам.

Век дваццаты — век работны,—
Маладых не любіць песціць.
А завязнуць раптам боты —
Паддае настрою песня.

Жартам — вольна ў цесным крузе:
Ля кастра — вяселле, гоман...
І дзяўчаты з Беларусі
Зацягнулі песню «Нёман».

## ЗАКОН КРУГАЗВАРОТУ

Ліст першы... Ліст апошні...
Закон кругазвароту:
Зноў на сухія пожні
Страсае дождж лістоту.

І прыйдзе час засеву.
І час зялёнай руні.
І птушак першаспевы
Прымусяць слых наструніць.

Дуду чмялю пазычыць
Мядовы звонкі ранак.
І сонца заказыча
Рамонкі на палянах.

Пазначыць, несумненна,
Жыццё ізноў турботы...

У вечнасці памкненняў —
Закон кругазвароту.

* * *

Тваё падножжа — свет зямны...
*Махтумкулі*

Ты — чалавек.
І свет твой — свет зямны.
Хай парастак тваіх задум не вяне:
Не стрымлівай пачуццяў веснаванне,
Але не сунімай і боль скразны...

Хай ён смыліць, хай ён пячэ агнём
За тых —
За дваццаць страчаных мільёнаў,
Што скошаны былі свінцом шалёным
Ці спалены фашысцкім насланнём.

І калі сэрца смутак апячэ
Ці засцяць вочы
слёзы ў час дакукі —
Не бойся сэрца аддаваць на мукі.
Ты — Чалавек. А свет — не рай яшчэ...

## УРАН

Дымяцца горныя хрыбты,
Спяваюць жаваранкі ў высях,—
А ўжо
        архар знямогла высах
І поўны смутку-нематы...

А ўжо
        зваліліся з нябёс
Раптоўна
        беркуты ў бяссіллі,
І перастаў валодаць крыллем
У пералёце
        альбатрос...

Міг —
З Хірасімы толькі прах...
Міг —
Нагасакі стала трэсці...
Хто на чарзе?
Хто будзе трэці?
Блукае па планеце страх...

Уран жа ўпэўнена
        ў палон
Бярэ стратэгаў і вучоных.
І ў падзямеллях незлічоных —
Не спіць смяроцце мегатон.

Сцярожка дыхаюць кляны,
Лугі, спавітыя туманам...
Няўжо
Пад страшным ураганам
Зляціць у пекла шар зямны?

Няўжо?!.

Душа мая, дазволь
Не ўтойваць
Неспакой паэта,
Бо ёсць жа
На планеце боль
І ёсць
Адказнасць перад светам!..





Дабранач, задуменны бор!
Прымі мяне ў свой дзіўны церам.
Вачэй савіных светафор
Гарыць у цемры.

Баюся тут спалохаць сны,
Ступаю ціха, асцярожна —
Хай кожны спіць жыхар лясны,
Як чалавек здарожаны...

Прылягу, задрамлю на міг —
І ўбачу сонных зверанятак.
А сосны ўсё — калых, калых,—
Хістаюцца лясныя шаты.

Я тут — і дома, і ў гасцях.
А мох, як матчына пярына.
Заснуў, заснуў лясны прасцяг.
...Міргае светафор савіны.

## ВЫВУЧЭННЕ ГІСТОРЫІ

На нашай Зямлі
Мы яшчэ піянеры,
Жыцця крэдыторы...
Па плітах магільных,
Пергаменце шэрым —
Чытаем гісторыю.
Мы ўсё вывучаем:
Шкілеты жывёл,
Чарапы чалавечыя —
А недзе
Ад бомбаў уздрыгвае дол,
Дзень — у прыцемках вечара...
Для некага мы —
Проста згусткі бялку.
Мы — жывыя мішэні.
І нас пад наглядам,
Як рыбу ў мяшку,
Трымаюць...
Імгненне!..
Імгненне адно —
І спрацуе курок,
Пахіснецца планета.
Ад цвердзі зямной
Да бездані —
Крок...
Не верыцца ў гэта!
О, свет!
Адрачыся ад бомбаў, ракет.
(Імгненне... Імгненне!..)
Давайце ж мы вывучым
Войны як след —
І іх перастрэнем!



Гэта шчасце — не для ўсіх,
Гэта радасць — не для многіх:
Ты касі, каса, касі,
Па расе ступайце, ногі.

Хай, як гай, шуміць трава!
І туман стаіць — па пояс!
Кругам, кругам галава:
Час касьбы — з пражытымповязь.

Добрай раніцы, прастор
З сонцам і блакітам неба!
І лагчынку, і бугор
Абкашу з душой — як трэба.

Стома —
Перахопіць дых,
Ды
Не папрашу падмогі:
Гэта шчасце — не для ўсіх,
Гэта радасць — не для многіх!..

## АБЛАВА

Загналі ваўка.
Загналі казулю, лася.
А ганчакі якочуць,
якочуць яшчэ.
І вось
уздрыгвае ў сутаргах
дзікае парася.
Знямогі пот
па гарачай поўсці цячэ.

Аблава працягваецца.
Прыходзіць чарга на зайцоў.
На іх паставілі петлі — няхай імчаць.
І паляць з ружжаў.
Пускаюць сабак-лаўцоў.
І памагаюць крыкамі:
— Ча!..
— Ча-ча-ча!..

Зайцы ж не дурні —
засеў у пятлі адзін,
Астатніх —
і вецер ужо не ў сілах дагнаць.
На дзікае паляванне
з радасцю
коршак глядзіць:
Кроў для яго —
прыемная навіна.

Здымаюцца шкуры...
Патрошацца тушы наспех...
Раз-пораз паблісквающь
хіжыя іклы нажоў...

Скуголіць ганчак...
Перарэзаным горлам
казуля храпе...
Паруе душа ласіная
з-пад лаўжоў...

Паехалі.
След ад машыны заносіць снег.
Цямнее.
Надрыўна з завеі матор гудзе.
І чуецца звонкі, і чуецца радасны смех...

Жахаецца лес ад гэтага смеху людзей.





Не з-пад Малева ці Каханава,
А з далёкае стараны
Дзеці Мар'іны і Іванавы
Не вяртаюцца ўсё з вайны.

Іх чакаюць старыя досвіткам
І ссутоненаю парой:
І свавольца, што зваць Хвядосікам,
І паважнага, што — Кузьмой.

Зумкі постук галінкі ўчуецца,
Дзінькнуць зманліва скразнякі —
Два да шыбіны твары туляцца:
«Мо каторы прыйшоў-такі?..»

Боль у сэрцах не супакоены
Раны горычнае, скразной...
А ці ўчуюць крык сэрцаў зболеных
Тыя,
Скошаныя вайной?..

## ПАДЛОГА

Падлога,
я ўдзячны тваёй дабраце —
Была яна мудрай
і строгай...
Вучыла
поўзаць на жываце
Мяне ты, малога,
падлога.

Пасля —
навучыла ля ложка стаяць,
Крок першы
зрабіць па хаце.
Па мяккасці —
магу параўнаць
Цябе
з даланёю маці.

Калі я хістаўся,
свой ходнік ты
Мне падсцілала — па́дай!..
Тваёй прастаты,
тваёй праваты —
Спазнаў я
цяпло і спагаду.

«Падлога!..» —
І матчыну хату ўяўлю,
Аздобленую ручнікамі.
«Падлога!..» —
І сонечны промень лаўлю,
Нібы ў дзяцінстве,—
рукамі.

Світай у душы маёй, родная,
дней,
Жаўцюсенькая — ад парога!..
Абуткам нявыцертым,
на вачах у мяне,
Прашу,
не тапчыце падлогу.



Знерухомелі асіны.
Працінае цела стома.
Апантаны рык ласіны
Заціхае пакрыёма.

Пакідаюць лес, балота
Гоман дрэў і спеў птушыны.
Ад вачэй людскіх употай
Загарэліся ажыны.

І шкада: вось-вось завышша
Разаб'юць грамы цапамі...
Неруш выспелае цішы
Прарасце пасля грыбамі.



Мне не сорамна
быць дзіваком
На сцяжыне лясной, заімшэлай:
З кожным дрэвам вітацца, лістком,
З кожнай ягадкай,
спелай, няспелай.

Не палохайцеся, грыбнікі,
Ад майго
не ўцякайце дзівацтва:
Я і сам, як лісток трапяткі,
Што уміг
можа з дрэва сарвацца.

І пагэтаму, можа, спаўна
Наглытацца хачу гэтай цішы —
Чуць,
як кожная звоніць сасна,
Чуць,
як кожная зёлачка дыша.

П'ю расу. І глытаю туман.
І бяру ў спадарожнікі вецер.
І блукаю —
палоннік палян —
Дзіваком
па расхрыстаным свеце.



Свет аб'ездзіўшы ўздоўж і перак [1],
Знаўцы многіх заморскіх сталіцаў
Да цыбатых спяшаюць асвераў
Пакланіцца, вады напіцца.

Абтрасаюць дарог кіламетры,
Муравою ступаюць, расхрыстаныя,
І, падставіўшы твары ветру,
Плачуць радасна, плачуць адкрыта.

Можа, дзе і было ім утульней.
Зор і сонца было, можа, болей.
Толькі хто ж да сябе так прытуліць,
Як не край, любы сэрцу да болю?!

Хто сустрэне гасцінна, жадана?!
Хто надзеліць і песняй, і сумам?!
І каму ты у апраўданне
Прынясеш свае словы і думы?!

Свет аб'ездзіўшы ўздоўж і перак,
Знаўцы многіх заморскіх сталіцаў
Да цыбатых спяшаюць асвераў —
Да вытокаў ідуць прычасціцца.

---

[1] Перак *(дыял.)* — упоперак.

## ФРАНЦІШКУ СКАРЫНУ

Далёкіх часоў успаміны.
Твой воблік світае ў прасторы...
— Дзень добры, Францішак Скарына,
Памкненням светлым дзень добры!

Ты сэрцам прачулым і вешчым
Клікаў народ на сустрэчу
Са словам яго, чалавечым,
Якому суджана вечнасць.

Вайну абвясціўшы цемры,
Невуцтву
у краі родным,—
Да ведаў ішоў ты цераз
Замежных дзяржаў вароты.

Хіліла да кнігі — прага,
Перад народам павіннасць.
З табой віталася — Прага,
Чырванабровая Вільня.

Гляджу
праз гады нябыту
Туды, дзе ты ўзважваў пралікі,
Карпеў, бакалаўр знакаміты,
Тварыў, доктар вялікі,—

Стаіш
ля раскрыленай кнігі,
Свае запаволіўшы рухі...

. . . . . . . . . . . . . .

...Сплываюць гады, як крыгі,
Нашчадак быліннай Нямігі,—
Чытаю твае першадрукі.



Не ўтравелі памяці лугі
Пырнікам, асотам.
Аганькі багаткі і кугі
Свецяцца, як сонечныя соты.

На далонях бацькавых насіў
Лёс мяне — і песціў.
А было: і я лугі касіў
З бацькам на дасвецці.

Радасцю запоўню цішыню —
І сябе запэўню:
Прачынацца мне не раз, як дню,
З крыкам пеўня...

Дзіўна ўсё ж... Няўжо і праўда я
Вырас, стаў дарослым?
Як раней, цячэ Тур'я мая
Там, за агародам.

Як раней, маленства галасы
У ільснёных хвалях.
І чутно пасвістванне касы
На мурожных далях.

Ведаю,
мне не зазнаць тугі
Ні цяпер, ні потым:
Не ўтравеюць памяці лугі
Пырнікам, асотам.

## ГАРМОНІЯ

Жыві і помні
Пра зялёны лес,
Пра ластаўчыны гнёзды і шпакоўні,
Пра тое, як у сад суседскі лез
Кішэні
        шчодрай восенню напоўніць.

Здзіўляйся гуду — грому і пчалы,
Яліне гонкай і кусту ядлоўцу.
І помні: ты вялікі — і малы,
Ты парушальнік,
Але ты й вымоўца...

Я веру ў мудры чалавечы род,
У вечнае парыпванне калыскі.
Не дай нам бог
Забыцца ад выгод —
На плач савы альбо на радасць пліскі.

Пакуль над светам
Зорны вір вісіць,
Пакуль бярозы шапацяць ля дому —
Не забывай пасечаных лясін
І песень тых,
Што з імі ўпалі долу...

## ТРЫШЦІХ

### 1

«Старасць — гэта не радасць...»

Як птушкі адчай,
Гэтых слоў устрывожаных боль
Не ачах:
«Старасць — гэта не радасць...»

Усплывае
З глыбіняў майго пачуцця
Думкі гэтай працяг,
Як сцяжыны прасцяг:
«Старасць — гэта не радасць...»

Помню:
Маці, як госцю, на стол падае
І расказвае ўсё пра няшчасці свае
(Старасць — гэта не радасць).

— Мама! Мама!
Прысядзь,
Пагамонім як след.
Як вады ў вадазборы,
Шчэ будзе бясед:
І вясёлых — і сумных,
І нават разумных.

— Еш, мой сынку,
А я пастаю ля стала...—
І бліжэй падышла.
Мне падсоўвае скварку,

Сырадой налівае,
А не бачыць,
Што ўсё амаль разлівае...

2

— Мама! Мама!
З дарог
Я вярнуўся на родны парог.
Зноў з табой за сталом мы,
За ціхай гамонкай.
Ні зямлі я не чуў пад сабою,
Ні ног,
Як імчаў да цябе
Радзімай старонкай.

Затуманены вочы твае.
Нейкі ў іх неспакой.
Нейкі сум і нудота.
І тайна,
Якой мне не ведаць.
Я цябе абдымаю рукой,
І душой,
І слязой:
«Будзеш, мама, абедаць?
Са мною абедаць?..»

3

О, як доўга вы, рукі,
Не дружылі з сялянскай касой
І ад працы не млелі,
Не нылі, як зараз...
Мушу стаць на пастой:
За маёю спіной —
Крочыць хмара.

Люба зараз
Налегчы на сала і хлеб,
Матчын хлеб.
Сонцам каранаваны,
Размакаць не павінен
Ён пад дажджом.
Вось і гром...

Я спяшаюся, мама!



# БЫЛО...

Яшчэ і раніца не ў сіле —
А я імчуся за сяло...
Траву мужчыны пакасілі
І кпяць з мяне: «То ж так было!..»

Брыду назад. Рагочуць далі
У дваццаць глотак за спіной...
«Ці косы звечара кляпалі?
Ці спаў я, як мядзведзь зімой?»



## СЭРЦА ПАЭТА

*Рыгору Барадуліну*

Кранала душу
музыка бору,
Крыніц ушацкіх зялёнаброўе.
І ў звонкіх
веснілася пераборах
Сэрца — жаўранак пурпуровы.

А далеч
галодным галёкала рэхам —
Сірочым дзяцінствам, удовіным горам...
І каня
пакрыўджана плакала рэкам —
Ахрыплым ад дыму, луджаным горлам...

Хістае ўспаміны дагэтуль памяць.
І будзяць куляў узвывы
пад ранак.
А сэрца —
быццам на вогнішчы паляць,
Сцякае болем сэрца — падранак.

Яму б саладу піць
аселіц мядовых,
Блукаць між акацый густых,
сонцачубых,
Калі б не зазнала плачу ўдоваў,
Што вочы выплакалі па любых.

Яно ўзрываецца
крыкам адчайным.
Яно ў глыбіні — і пячэ, і коле.

На шчодрасць жа — шчодрае незвычайна.
На дабрыню — тым болей.

Напэўна, не ведаць самому паэту,
Што сэрца яго —
                                        і дарадца, і доктар...
Яно не кане бясследна ў Лету,
Сэрца добрае.



За сінім борам, зялёным гаем —
Смяецца рэчка вясёлым звонам...
Куды плыве, ад каго ўцякае
Старая лодка прасторам вольным?

Яе такою — заўсёды помніў:
З луской і мохам, з бліскучай раскай.
Яна — дзяцінства вясёлы помнік —
Слыла ў малых нас — рачной каляскай.

На плынь пагляну — і дух займае...
А дзень не вернецца ўжо ніводны.
Куды плыве, ад каго ўцякае
Старая лодка прасторам вольным?



Начное возера
Мяне
То забаўляла,
                то люляла.
Яно са мною па вясне
Пра нешта
Доўга размаўляла.

А потым —
Мроіла са мной.
А потым —
                выла страшным зверам.
І толькі раніцай
Прыбой
Мне кінуў
                рыбіну на бераг.

## РАЗМОВА З СЫНАМ

— За праўду праўдай,
За дабро дабром
Плаці, мой сын, спаўна, па-чалавечы...
— А што,
Калі сустрэнуся са злом?
— Са злом?..
Такой не зычу я сустрэчы.
— І ўсё ж скажы мне, бацька, што тады?..
Чакаць бяды
Ці не чакаць бяды?..

...Была зіма. Біў злосна ў шыбы вецер.
Я марыў пра дабро у цэлым свеце.



## РАДЗІМІЧ

Быў продак мой асілкам-дзяцюком.
Ён справу меў і з дрэвам,
і з жалезам.
Мог паваліць ён
елку плячуком
І мог адзін
дзіка нажом зарэзаць.

Пад жылістай яго́наю рукой
Не воўчым лыкам —
грэчкай спела гала,
І поле палавела
збажыной,
І дзяцеліна
пад касой спявала.

Калі ж на край у красках, у расе
Ішла бяда
нявечыць нівы, хаты,
Ён жонцы
пакідаў турботы ўсе,
А сам
з мячом ішоў на супастата.

І скажа,
жыта росцячы,
пасля
Нашчадак з-пад Нясвіжа ці Бярозы:
«Усеяна радзімая зямля
Касцямі чужаніц
і злыдняў розных...»

## НА ВАКЗАЛЕ

«Паехалі,
Паехалі ў Нясвіж,
Дзе ціш нябёсаў —
І завулкаў ціш,
Дзе некаранаваным каралём
Па крамах ходзіць дзед з даўгім рублём,
А ўслед за ім — цыганка нестарая,
Душа — агонь, і вочы, брат,— агонь:
Яна глядзіць на дзедаву далонь —
І дзеду
Веку доўгага жадае...
Паехалі.
Заглянем на кірмаш,
І купім тое-сёе для прыліку.
Ну а пасля —
З Алёнай? Жанай? Лікай? —
На гарадскі мы завітаем пляж.
Не.
Пра дурное думаць — перастань!
Хоць можа і дурное ўбіцца ў галаў,
Калі убачыш ты
Дзявочы стан
І юны твар, няўрымсліва-вясёлы...

Паехалі, паехалі ў Нясвіж,—
Мой і Нью-Йорк,
і Лондан,
і Парыж...
(На ўсіх на іх яго не прамяняю!)
Чаго, нібыта статуя, стаіш?!
Ты бачыш, што аўтобус — на Нясвіж?»

Аўтобус памаленьку ад'язджае...

## ЦЫГАНСКІ ТАНЕЦ

А цыганка ўздрыгнула,
Па руках —
спалох...
А цыганка ўскрыкнула
І прайшлася —
ох!

Галчанямі чорнымі
Вочы з-пад брывей.
Рухі незлічоныя —
Ўсё жвавей.

Ах, цыганка босая!
Ах, давай!
Чорнавалосая
Га-ла-ва!

То дзяцей спалохае,
То бабуль...
Спрыт і ўвішнасць лёгкая,
Скуль вы,
скуль?

Дух яшчэ няўрымслівы
Не ачах.
Сачак аж парыпвае
На плячах.

Цела — як напятая
Цеціва.
Ах, цыганка,— пяткамі!
Ах, давай!

Завушніцы-месяцы —
Растрывож!
Грудзі — аж не месяцца!..
Танец — гож!

Выйду, неўвярэдніца,—
Не ўстаю...
Я табе, гарэзніца,
Дзя-ку-ю!..





І чуцен спеў зязюлін быў хлапчыне,
Хоць увушшу грымеў набат шалёны
І галава неўтаймаваным звонам
Гула, як правадоў стальных націнне.

«Не перастань, зязюля, кукаваці —
Ад смерці ты адно цяпер збавенне...»
...Паволі на зямлю сплывалі цені
Ад вечара — і клаліся на гаці.

Радзіму прыгадаў, успомніў маці...
Чакаюць у бары на зіму дровы,
Хаціна не дакрыта напалову,
«Не перастань, зязюля, кукаваці!..»



Не пачынайся, дзень, з грымот,
А пачынайся светла, дзіўна.
Няхай святочныя радзіны
Адзначыць ціхі сонца ўсход.

На свеце болей дабрыні
І болей стане захаплення,
А ў сэрцы творчага натхнення —
Не ўтаймаваць, не супыніць.

І думак сонечных палёт
Не будзе мець ні меж, ні краю...
Усёй істотай заклінаю:
Не пачынайся, дзень, з грымот!

## БАЦЯНЫ

Вянок гнязда — у неба ўзнесены,
Ён мне — як арэол Айчыны.
Над ім жа
белай-белай мецінай
Бацян плыве, як аблачына.

Ледзь чутным,
Асцярожным пошумам
Шуміць таполя па-над хатай,
Дзе размаўляюць
кволым пошаптам
Пухнаценькія бацяняты.

Яшчэ над хатамі, адрынамі
Ім доўга
ціўкат ліць празрысты
І лапатаць
Трывожна крыламі
Услед бацькам, такім фарсістым...

А прыйдзе час — світальна-ўзнёслыя,
Яны
адчуюць прагу неба
І самі
Узляцяць над вёскаю,
Бо ім — стаць бацянамі трэба.

І ў высях, круг за кругам робячы,
Яны адчуюць, што зямныя...

Заўваж: яны такія розныя!
Заўваж: яны такія родныя!
І беларускія такія!

## ЯБЛЫК БЕЛАГА НАЛІВУ

Камароўка пахне садам...
Я іду па ёй — шчаслівы,
Бо купіў вялікі самы
Яблык белага наліву.

Ён не месціцца ў кішэні,
Хоць разрэж яго на долькі,
Ды ў мяне адно рашэнне:
Прывязу цалюткім толькі...

Знаю, знаю: даспадобы
Будзе гэты дар малому.
Ён — высокай самай пробы,
Яблык, з сонцам напалову.

Ён яму раскажа многа
Пра зямлю, пра шчодрасць саду.
І зачэпіцца ў малога
Пачуццём бунтоўным радасць.

Сын мой, я гукну з парога,
Нá табе, мой любы сыне,
Воблік краю дарагога,
Воблік бацькаўшчыны слыннай.

Белы гэты край адвеку,
Хоць чарнеў парой ад гора.
Ты ўзрасцеш тут чалавекам,
Як зямля, як край твой, годным.

Нá, вазьмі вось гэты яблык,
Яблык белага наліву,
Каб, на зло любому д'яблу,
Быў з народам ты шчаслівы.

Каб любіў зямлю святую,
Што завецца Белай Руссю,
Пра якую, за якую
Ты шчэ скажаш: «Ганаруся!..»

Камароўка пахне садам.
Я іду па ёй, шчаслівы.
А ў руках — вялікі самы
Яблык белага наліву.





Адчуй, як дома бор гудзе,
Як белым буслам кружыць лета,
Як п'е вясёлка перасветы,
Па пояс стоячы ў вадзе.

І пасвятлее на душы,
І стане хораша і лёгка,
Нібы ізноў ты недалёка
Ад вёскі, што ў цішы крушын,

Дзе матчын цепліцца пагляд,
Дзе не аціхнуў звон крынічны,
Дзе дзед, схіліўшыся над кніжкай,
Даніне мудрых думак рад,—

А ты зусім яшчэ малы:
Табе шчэ плакаць і смяяцца,
Табе ад шчасця захлынацца,
Не знаць,
Дзе добры свет — дзе злы!..



Мне раяць: «Пішы што ні дзень —
Руку паднаб'еш тымчасова,
Застою не будзе ў хадзе
Да пошуку ісціны, слова.

І з рыфмаю зладзіць лягчэй
Тады, як працуеш заўзята,
І ў друк прабівацца лацвей,
Ну а публікацыя ж — свята...»

Так смешна ад гэтых парад,
Ад гэтых напышлівых слоўцаў...
Пішыце — як прыйдзе пара,
Дзяўчаты і хлопцы.

Даволі і так мітусні,
А колькі шчэ будзе
Пазёрства, хлусні і грызні.
А кніжкі ж — як людзі...

Іх трэба пісаць — быццам сад
Закладваць, узрошчваць нанова,
Каб некаму стаў ты як брат —
Пачуццямі, думкамі, словам...

* * *

Прысніцца рачулка за бацькавым садам,
Крыклівых гусей загагочуць чароды.
І клюне душа мая, як на прынаду,
На голас птушыны, такі першародны...

Ах, гусі мае!..
Колькі я вас прапасвіў!
І колькі займеў ад таго асалоды!
Не дайце ж — о гусі! — у сне хоць прапасці
Вадзе — назаўсёды, рацэ — назаўсёды.

А гусі гагочуць. А гусі рагочуць.
А гусі становяцца белым туманам.
І плачуць, сумуюць, прачнуўшыся, вочы —
Па рэчцы, па гусях, па сонным падмане.



## ПАРАДА САБЕ САМОМУ

Не давярай сваім гадам,
Яны — што глянец на паркеце...
Будзь, як крынічная вада.
Будзь, як сустрэчны польны вецер.

Ты не на тлумным кірмашы,
Дзе ўсё прадаў — і ўсё забыта...
Больш давярай сваёй душы
І тому, што душой набыта.

## У НЯСВІЖЫ КАЛЯ ФАРНАГА КАСЦЁЛА

Быў ціхім двор.
Спяваў царкоўны хор.
І гукі песні сумнай тымчасова
Злятталі з храма божага. І словы
Кранальі слых знянацку як дакор.

Я доўга-доўга моўчкі тут стаяў.
Не пра малітву думаў, не —
Пра мову,
Што ў часе непрадбачліва-суровым
Сплыла у Лету ціха, як бруя.

І вось набожных бабак галасы,
Хоць бабкі ў мове гэтай не свядомяць,—
Так-сяк біблейскай песні тэкст далдоняць,
Варушачы мінулыя часы...

Чаму ж стаяў я сцішана ў двары
І блізкім здаўся мне латыні голас?

Я проста ўспомніў
з Гусава Міколу,
Які нам скарб бязмерны падарыў
На мове гэтай...

## ЗАТУР'Я

Чырвань твару — удвая,—
Журавінная...
За Тур'ёю — Затур'я
Мі-ла-від-на-я!

Вёска, вёска землякоў!
Не чакала, ці што?
Да бацькоў і да дзядзькоў —
Запрашай за стол.

Адзінокім — не хачу
Быць, гасцюючы.
Пад гармонік — захаджу
Тан-цу-ю-чы!

— Ты выходзь, бабуля, ў круг —
Не саромейся!
— Э-эх!
Не грэх пайсці у рух
І Міронісе...

І пайшла, павяла
Плечуком, ды так,
Быццам жартам апякла:
«Не такі ты й мастак!..»

Што датычыць мяне —
Не пужаюся!..

. . . . . . . . . . .

Вось і танцу канец.
Хіс-та-ю-ся.



Не ўсё пакуль, як ты б хацеў.
Не ўсё даецца нават з боем.
Але расце ў душы, расце
Нявыказанае табою.

І лес, і поле, і рака —
Свой набываюць сэнс, свой вырыс...
І спее музыка радка.
І строфы ў думкі йдуць навырост.

Прагорклыя ад цыгарэт,
Прапахлыя гарбатай крута,
Яны вось-вось убачаць свет —
І ступіць верш на першапутак.

## КУРГАН СЛАВЫ

Слава твая, мой народ,
Не йшла да цябе самохаць,
Калі ты
У поўны рост
Устаў, каб здабыць перамогу.

Мужнасць твая, мой народ,
Наперад вяла несупынна,
Калі
Ты звярыны зброд
Вогненнай гнаў дубінай.

Годнасць твая, мой народ,
Засведчыць вякам яскрава:
Героем
Ты выйшаў з нягод,
Табе і зямлі тваёй — слава.



Я гэты край люблю такім, як ёсць:
З туманам. З навальніцамі. З марозам.
Ні з чым не параўнаеш прыгажосць
Прынёманскіх дубоў, асін, бярозаў.

І сонца, і нябёсы тут свае.
Свае і песні — колькі знае мама!
І толькі рук
У вёсках не стае
З тае вайны, з нечалавечнай самай...

* * *

Мароз бярэцца на акно.
І залубелі лужын шкліны.
І пух бялёсы, галубіны,
Запарушыў зямлі радно.

Падкінь, зіма, сняжку, падкінь!
Хай гурбы пеняцца, як піва!
На летнікі, на бальшакі
Мярэжай белае мукі —
Спадае мліва... мліва... мліва...



Працялі вечар пахі векавыя.
Жывыя травы... Лісцікі жывыя...
Як мне без вас?

Душой цягнуся, кожным нервам чуйным,
Узрушаны шчасліва і расчулены,—
Да чысціні зямной.

Пярэйдзе ў ноч, у раніцу блуканне.
Зайграе луг на казачным аргане —
Спаць не схачу.

Трапеча сэрца лёгка, як мембрана.
Зрадзее ўрэшце морак. Дзень старанна
Запаліць сонца.

Прачнуцца гукі. І над цугам хатаў
У неба птахі ўзнімуцца крылата.
Дабрыдзень, вёска!



Сцішылі ў бары
Трубны кліч ласі.
Выйшлі за двары
Песні-галасы.

Павядзі брывом,
Вейкай калыхні:
Недзе за сялом
Свецяцца агні...

«Ай, добра ноч!
Шырокае поле,
Жыта ядраное,
Ай, добра ноч!»

Гукам тым расці
Пасярод лагоў,
У лясным трысці —
Адгукацца зноў:

«Ай, добра ноч!
Шырокае поле,
Жыта ядраное,
Ай, добра ноч!»

Лягу — не засну:
Вокны ўдалячынь.
У цябе сягну
Зноўку, ночы сінь!

«Ай, добра ноч!
Шырокае поле,
Жыта ядраное,
Ай, добра ноч!»

## ВАЎЧАНЯ

Асірацелы бляск вачэй штодня
І палахлівасць немачы дзіцяці...
Я не хачу, каб нават ваўчаня
Прыходзіла ў жыццё без ласкі маці.

Дык для чаго ж вы, людзі, для чаго
Малое навязалі, быццам звера?
Нічога шчэ звярынага ў яго
Дагэтуль не было — я цвёрда веру.

І хіба зразумець яму цяпер,
Хто прывязаў яго да агароджы?..
Так адзічэў бы і не звер, як звер,
Так і не воўк ваўком зрабіцца можа.

* * *

Даруй мне, гісторыя, што вякі
Твае варушу
без дазволу.

Касіянеры...
Сечавікі...
Вітаю вас, волаты волі.

Да вас прычасціцца
Іду праз гады,
Праз войны і землятрусы,
Душой — упарты і малады,
Як вы, прашчуры русыя!

Пачуцці світаюць мае да вас,
Мужныя і харобрыя...
Зялёна гарыць
на курганні трава,
Дзе вы спачываеце, родныя.

Ні вогніва смерчу,
Што орды ваяк
Прыносілі
на паселішчы,
Ні потам прасолены
горкі праснак —
Дух
не зламалі
аселасці.

Чувана пра вас
За абсягам славян —
На землях французаў і гунаў:

Трывала стаяў на зямлі Іван,
Як дуб каранасты — магутна.

І нават тады, калі знікне зло
І слова «вайна» — заплеснее,
Ваша
Любві да радзімы цяпло —
Праз песні народа
уваскрэсне!



⁴/₂5 Зак. 624

## У ГАСЦЯХ
## У СТАРОГА ПСКОВА

Глядзіць з глыбіні вякоў
Сабораў нязменная варта.
Стары, як легенда, Пскоў
Трымаецца юнакавата.

Царква Васіля на Гары.
Царква Міколы з Усохі.
І рэчкі Вялікай віры
Дагэтуль не перасохлі.

Тут прысмак парахавы
Ніколі не выветраць годы.
Хавае паданняў сівых
Багата Даўмонтаў горад.

Кава́лі мячы крывічы,
Выкоўвалі дбайна шаломы,
Каб мір быў — і ўдзень, і ўначы —
Пад вежаю Куцякрома.

Грымячай гары яры —
Ты толькі спытай — засведчаць:
Званы і малых, і старых
Склікалі не раз на веча.

Здаецца, чутно за вярсту,
Як лёд на Вялікай грукоча.
Ці гэта гісторыя тут
На войны забыцца не хоча?!



Не дазваляй мне, чысціня,
З дарогі збіцца, аступіцца...
Хачу
Бруістай біць крыніцай
З глыбінь тваіх,
О, дабрыня!

## У НАЧЛЕЗЕ

Зялёнага лесу сцяна
І птушку, і звера ўлагодзіла.
І хмеліць паветра няўзнак.
І п'ецца туману малодзіва.

А ўсход зарумяніцца ледзь —
Душою адчуеш навобмацак,
Як сіліцца ў неба ўзляцець
Падлётак барвовага вогнішча.

* * *

Як гэта многа: жыць сярод людзей,
Да ўсіх да іх адносіцца з даверам,
І тому адчыняць шырока дзверы,
Хто да цябе з парадаю ідзе...

Як многа гэта: зведаць смак турбот,—
Ад спраў не мець прадыху, ад работы,
Пісаць — і праклінаць сябе, каб потым
Сказаць: «Які цудоўны, ўсё-ткі, год!»



Час птушынага граю
Над паўдзённым сялом...
Над узнятым чалом —
Вясёлка згарае.

Травам хочацца піць.
А хмурынка — пушынка.
Сонца жоўтай жарынкай
У паветры вісіць.

Ад гарачых цыкад
Млява гнуткай вярбіне...
Дзень, праклюнь шкарлупінне
Неба,—
Дай дажджапад!

## ОДА ХЛЕБУ

На вясновых абсягах
Абуджанай роднай зямлі,
Дзе і ўранку, і ўвечар
Барвова зара палымнее,
Шчыльнай рунню зялёнай
З адборных зярнят прараслі —
Радасць, Шчасце, Надзея.
Крутавеі-вятры,
Супыніце раз'ятраны гон!..—
Хай растуць і красуюць,
Пасля —
Наліваюцца сокам...
Каласоў неўвярэдлівы звон
Стане ўладна чуцён
Над маёю Радзімай,
Дзе неба — высока-высока.
Тою шчаснай парой,
Тою мудрай сялянскай парой
Мне ніяк не пражыць
Без тваіх краявідаў жытнёвых.
Па шляхах разнатраўных
Густой баравою травой —
Я пайду да палеткаў
Пачуць каласоў перазовы.
Свята маці-зямлі...
Свята збытных задумаў і мар...
Непарыўная сувязь з жыццём
Каранёў і сцяблінаў...
Мне гарачым прылівам
Няхай жа павее у твар
Дух надзённага хлеба
З адвечнага кліна!



...Не давалі заснуць
Дажджапад з перуном:
Усю ноч
Пратаўклісч ў мяне пад акном —
Неўталоннікі дзіўныя.

Толькі раніцай
Вочы прымружыць я змог —
І прысніўся мне луг...
І духмяны мурог...
Цішыня —
Не надыхацца!

Даль спавіта туманам.
І поўня вісіць.
І сузор'і нябёс...
І сузор'і расін...
А куга —
Маладзюсенька!

І не ведаю,
Колькі б я слухаў траву,
Толькі конік мне скокнуў
На галаву —
Я прачнуўся...



У кожнага паэта ворагі ёсць.
І хоць паэт не йдзе на кампрамісы,
Але паэт таіць не будзе злосць
Ні за падман, ні за паклёп наўмысны.

Бо ёсць святое слова на зямлі,
Якому ні на міг паэт не здрадзіць,
Якое — не ўтапіць і не спаліць,
Імя якому пажыццёва — Праўда.

І я пакляўся з гэтым словам жыць.
А ворагі? Няхай ім будзе пуста!
Мяне распяць нялёгка на крыжы,
Я — чалавек, а не якісь Ісус там.

## СНЕГ

Я характар яго адчуваю круты,
Калі з гор імчыцца лавіна
І ў далоні далін,
Быццам стрэл з неманы,—
Урываецца бунт няспынна.

Што б той бунт!
Што б той шал снегавы, векавы!
Ён нічога б не значыў, пэўна.
Ды кранае русявасць тваёй галавы
Снег няпрошана і завейна.

Усё болей
Адбельвае валасы,
І знайсці паратунак нельга:
Незваротнасць у горнай крутой паласы
І ў твайго белым-белага снега.

Пастарэла, мая павучальніца, ты
На гады,
На падзеі і даты.
А пагляд сёння — радасны, час — залаты,
Два сыны за сталом,
Два салдаты...

## ПЕРАДГУДДЗЕ

Яшчэ не ўзляцела
Трывога жар-птушкай
І голас сірэны
Змяркання не спудзіў —
Ды вечар у небе
Ракету загушкаў
І ціша
Наструнілася
Ў перагуддзі...

Упала
Секундай апошняю
                    знічка,
Згарэла,
Ліхтар запаліўшы сігнальны...
І моргае ветаха ў хмарах
                    газнічка
Астральна.

## АФІЦЭРЫ ЗАПАСУ

Нам вайсковую форму
ізноў
выдае старшына.
Неспакойна на свеце,
і ў сэрцах не стала спакойна.
І засведчыць Радзіма:
не наша у гэтым віна,
Што яшчэ краваточаць
на свеце
разбоі і войны.

Заступаем на варту
за светлы і радасны дзень —
За спакой гарадоў,
нашых сёлаў
і вёсачак ціхіх.
І люляем надзею,
святую надзею надзей,
Што Зямля будзе вечна
жыцця
і дабра парадзіхай.

Афіцэры запасу...
Прызвалі нас мір зберагчы...
Покуль дымам і порахам
пахне
трава палігонаў,
Нашы дзеці не ў страху —
сняць мройныя сны уначы.
І з надзеяй эпоха
пазірае
на нашы пагоны.



Прышпор каня, наезнік малады,—
Хіба не ў пору з ветрам паспрачацца?!
Імчы!
Няхай юначыя гады
Услед галопу
Пранясуцца чаіцай.

З пакосных траў павее смачны пах,
Расшпіліць хуткасць
Гузік на кашулі,
А ты ляці — у вёскі на вачах —
Да хваль рачных,
што ў чаратах прыснулі...

Яшчэ паспееш
(Гэта ўсё пасля!)
Забыцца на каня, на ўсход барвовы...
А зараз —
Хай гудзе вакол зямля,
Няхай звіняць
Па бальшаку падковы.

У русачубай хмарцы валасоў
І я прызнаю хлапчука з маленства...
Імчы! Імчы!
Адно б гэта не сон...
Адно б гэта — сапраўднае шаленства...

## КАСТРЫ НА КУПАЛЛЕ

«Як ведзьмаў палохаюць —
Вогнішчы паляць...»

Вяртае,
Вяртае ізноў мяне памяць
Да тых даляглядаў,
Да селішчаў вешчых,
Дзе бунт зарападаў,
Дзе вечар — як вечнасць.

Зноў вогнішчы паляць!
І дымна, і светла...
Зноў вогнішчы паляць!
Світае над светам...

Удзячны агню,
Што паўнеба расквеціў.
Удзячны каню,
Што імчыць, нібы вецер,
Туды,
Дзе, як крылы,—
Трымцяць небасхілы,
Туды,
Дзе за полем —
У барвах раздолле...

Мой добры ўспамін! —
Гэтак мала схацеў я:
Каб ты, ты адзін
Стаў маёй панацэяй...

Хай вогнішчы паляць!

А я ўспамінаю
Забытыя сцежкі
Ля светлага гаю,
Забытыя крокі,
Забытыя гукі,
Забытыя скроні.
Забытыя рукі...

Забытыя рухі
Жыцця і надзеі...
Забытыя скрухі...
Ура, панацэя!

Ура, панацэя!
Мне больш не забыцца
На вечар купальскі,
Яго таямніцы...
Вяртай жа,
Вяртай праз гады мяне, памяць!

«Як ведзьмаў палохаюць —
Вогнішчы паляць...»

* * *

Вёска Вішнева. Рэчка ўвішная.
Белы вэлюм надзелі сады.
І над яблынямі, над вішнямі —
Дух буяе вясны маладьі.

Тут утульна пчале і сонейку...
І дзяўчыне з касой залатой...
Гэтак пахнуць галінкі соладка!
Гэтак хмеліць паветра настой!

А душа то засне, то абудзіцца
На шчаслівай зямлі ў гэты міг...
Знерухомей — і голас Буднага
Ты пачуеш між дрэў шапаткіх.





Укралі ў птушкі птушаня...
Таго злачынства я не бачыў,
Ды ўцяміў,
Калі з крыкам-плачам
Зляцелася яе радня.

І боль параніў сэрца мне —
Прасілі птушкі паратунку,
Бы ведаў я, ў якім кірунку
Злачынец праз імшары мкне.

Ці, можа, думалі яны,
Што гэта я — іх вораг люты.
Што я прыдумаў ім пакуты,
З чужой прыйшоўшы стараны.

Калі ж перавядзецца зло,
Каб зніклі ўсякія прычыны
Завітваць гору ў дом птушыны,
Любое іншае жытло?

## ВЕЧНЫ ДОЎГ

Шлях дамоў — не проста шлях,—
Вырак суму, вырак тлуму:
Па расхрыстаных лугах
Ходзяць ногі, ходзяць думы...

Не пакрыўджаны на лёс
Той,
Хто мае шчасце зведаць,
Як туман ля выспаў лёг,
Як траву даймае верад.

Час вяртае на кругі,
Дзе маленства прад вачыма.
Мы выплочваем даўгі —
Век плаціць табе, Радзіма.

## ПЕРАД АД'ЕЗДАМ

Ізноў выпырхваю з цяпла
І ў бацькаў сад павольна крочу,
Накінуўшы на плечы плашч
Асенняй ночы.

І мройна, і суцішна тут
Пад цёплым небам вераснёвым,
З якім і я, як гэты кут,
Вякі, здаецца, парадпёны...



Рад не ўтульнасці жытла,
Дом мой — луг, і лес, і поле:
Тут і кветка, і пчала
Не засмучаны ніколі.

Стоязыкі, звонкі дзень,—
І мяне ён не абдзеліць,
Толькі б злыбяды — нідзе,
Толькі б светлыя падзеі.

Абміні, віхор вайны,
Дай пажыць на гэтым свеце
Дзятлу — у дупле сасны,
Сойцы — у зялёным веццы.

Анічога не хачу
Ад цябе, мой век шалёны,
Толькі б бачыць, толькі б чуць —
Вечны дзень жыцця зялёны...

# ПАЭМА МАЙГО ЦЭХА

## Лірычны дзённік

### РАБОТА

А прызнацца
Сорамна:
Першы дзень
Палохаў...

Крэкчуць краны
                    зморана,
А рукам
Палёгка.

— Гэй!
Цугляй хутчэй!
Ты ж не за кактэйлем,
На чарзе яшчэ
Гружаны кантэйнер!

За́баўкі — на потым.
Там,
      на танцпляцоўцы...
А цяпер —
Работа
Да поту
            на спяцоўцы.

Звоняць аб крукі
Ланцугоў
              страмёны.
Кран
У дзве рукі
Груз бярэ
Шматтонны.

## ДА ПЫТАННЯ АБ РАМАНТЫЦЫ

Вось ён —
Той рамантычны свет,
Дзе ганяцца не трэба
За славай:
Хочаш славы —
працуй як след.
І сама цябе
Знойдзе слава.

Развaжанні
Пакінь на пасля,
Падрахуе турботы
Субота.
Бачыш,
Рукі ўжо ў мазалях,
Значыць,
Ты не збаяўся работы.

Навучы сябе шчэ
любіць
Па-сапраўднаму
Сваю справу.
І тады ўжо
можаш быць
Ты названы
Докам па праву.

У завівах
Дум і надзей
Хай шчыруе
твой юны голас
Пераклічкаю
слаўных дзей,
А не ўласным
Пахвальствам голым.

Быццам гучных
Акордаў збег —
Пачынаецца хай
работа...
І наструніцца
Шчасце ў табе
Самай звонкай,
Высокай нотай.

## ЗВАРАЧНЫ КАНВЕЕР

Працуем — не халадкуем.
Ад зваркі ў дыме — сінія.
Удосталь
Іскры смакуем —
Пякучыя джалы асіныя.

Стыкі —
агонь трапяткі
Сшывае,
Мацуе трывала...
Зноўку
стукаюць
малаткі,
Зноўку
пахне
металам.

Выйшлі за дзённы рубеж!
Шчыткі
Ўзлятаюць угору.
І няма, здаецца,
радасці меж —
Твары
Світаюць горда.

## СКАЗ ПРА ПАЭЗІЮ

Хто там
Спрабуе скардзіцца:
«У працы — няма паэзіі»?!
Невычарпальнымі
скарбамі
Стазвоніць яна ў жалезе.

Няўпэўнены!
Сэрца наструнь і
Адчуй
на сумлення вагах:
Патрэбна жалезу,
як руні,
І сэрца твае, і ўвага.

## ПАСЛЯ ЗМЕНЫ

Пасля змены
Крокам цяжкім
Газазваршчык
Выходзіць з цэха.
Цішыня
На двары завадскім
Аглушае на міг,
Як рэха.

Ля «круцёлкі»
Прыпыніць крок.
Твар у клопаце,
Не ў засмучэнні:
Не спазніцца б
На першы ўрок,
Ён — вячэрнік.

# У АБ'ЕКТЫВЕ РОЗДУМУ

## Дзённік трывогі і веры

* * *

Пазначаны
звышпільнымі радарамі,
Аэрадромамі,
ракетадромамі,—
Ты, свет, жывеш надзеямі і марамі
Прадухіліць
нейтронна-вадародную...

Уславіўшы
і атам, і арала,
Ідзеш ты ў заўтра
з непахіснай вераю.
А ўжо вайны
злавесная навала
У сны глядзіць і мары запаветныя.

Крыло аеру,
ціўкат крыжадзюба,
Дзіцячы голас нерашучы, цененькі
Вынюхвае
атрутная гадзюка,
Свой хіжы прывід тоячы у цемры.

І штó тады,
як ядам пырсне ятрана
Па гарадах, па селішчах гуллівых?!
Ці росы зноў
свяціцца будуць ядрана?
Ці будуць зноўку
каласіцца нівы?

...Па пыльных сцежках, бальшаках планеты
Нясе сваю зямную ношу кожны.
І нельга на жыццё накласці вета.

Чаму ж тады на сэрцы так трывожна?

## ГОЛАС СУМЛЕННЯ

Чалавек!
Ці зверам ты не быў?
Ці не быў ты
малпай напачатку,
Калі грузных рук сваіх пячаткі
Пакідаў,
Як па зямлі хадзіў?

Навучыла многаму жыццё.
Многае
Зыначылася ў свеце.

Чорная пячатка рук —
Асвенцім!!! —
Засталася.
Час яе не сцёр...

Над пякельнаю жудасцю
Замры —
Пагарэлых,
Масявіч,
Хатыняў...
Слых напруж —
Ля кожнай са святыняў
Плач дзяцей узрушыць,
матак крык...

## ДАЛЬ ЧУЖЫХ НЕБАСХІЛАЎ

Біўні навастрыліся ракет,
Апрамецця прагнучы,
ахвяраў...

Уявіўшы
зарыва пажараў,
Затаіўся,
Сцішыўся Сусвет.

Нібы слёз людскіх —
На небе зор.
Маладзік за воблака схаваўся,
Ды не змог уседзець,
Не стрымаўся —
І рашуча выбег на прастор...

Зноўку кінуў позірк з вышыні:
Прыцемак...
Тырчаць ракетаў біўні...
Нагатоў
У кулямётах ліўні...
Зграяй танкі
ў жудаснай брані...

## ОДУМ

1

Айкумена!
Ці была такой
Ты да нашай,
Звышсучаснай эры?
Думала ці не,

Што мільярдэры
Пасягнуць калісь на твой спакой?..

Хіба знала ты, як сталь гарыць?
Як жагае гаці шквал пажару?
...Мірна ў небе
Гойдаліся хмары,
Не палохаў
Смертаносны грыб...

Птушак
Не змаўкалі галасы —
Не глушыў іх
гул ракетадромаў.
Крылы іх
Не адчувалі стомы,
Сонныя калышучы лясы.

Не было ні бомбаў, ні ракет.
Ні піратаў
З атамам, нейтронам...
З высяў —
Толькі зорачак прамёны
Падалі,
Рассейваючы след...

2

Колькі жыць ты здолееш,
Зямля?
Вечнаю ты будзеш —
Ці не вечнай?
Ці
руплівай працай чалавечай,
Як цяпер, парадуеш пасля?

Хораша тады,
Калі ў садах
Яблыкі румяняцца і грушы,
Калі вусы каласоў
варушыць
Ветрык жартаўлівы на палях...

Нат падумаць страшна,
Што калісь
Можа ўраз
усё гэта прапасці,
Могуць дрэвы
далавах упасці
Ці ўзляцець
Асмолкамі увысь.

Нат падумаць страшна...
А вакол —
Цішыня, напятая, як нітка.
Міг —
І дымам будзе ўсё спавіта,
Прысакам бяды — услалы дол.

## БЕЛАРУСІ

Помніш добра ты,
Калі прастор
Ад агню й крыві
ўвесь быў чырвоны,
Калі,
з чадным дымам вёсак,
стогны
Ў вышыню плылі
Да самых зор.

...На зямлю ступаю Масявіч.

Дзе вы, хаты,—
Котлішча людское?
Манумент
З працягнутай рукою
Агаломшвае, здалося, кліч:
«Чалавек!
Ты ведаеш пра нас.
З полымем сышлі мы на дасвецці...
Каб не забываўся
Страшны час —
Раскажы пра гэта
Ўсім на свеце».

## ГОЛАС ЗЯМЛІ

Помніце,
Няўмольны час які!
Да зубоў
Узброены дзяржавы.
Зброя ж
Не для жартаў і забавы.

Хай вядзе вас
розум у вякі!

Хай ён свеціць вам,
Нібы маяк,
Не кідае вас
сярод дарогі.
Хай прыносіць поспех вам у многім,
Каб жылі заўжды
Не абы-як.

Ён напэўна
Дасць вам
дабрабыт.
Калі мудра
І цвяроза думаць —
Скруха
Не напоўніць сэрцы сумам,
Млосны смог
не засціць краявід...

Сонца старажытнае з вышынь
Будзе вам свяціць тады
Бясконца,
Не патухне вокамгненна
сонца,
Не ныране
Ў курадымную плынь...





## ХАТА З ЧЫРВОНЫМІ АКАНІЦАМІ

Не, немагчыма такому прысніцца
І немагчыма ў такое паверыць:
Хата з чырвонымі аканіцамі
Пасярод лесу, адчынены дзверы...

— Хто ў леснічоўцы?! — гукаю з парога,
Сам жа, прамоклы, спяшаюся ў сенцы.
Чую, як цікаюць ходзікі строга...
Чую, як пахне з гарышча сенам...

Дух заняло, калі з печы дыхнула
Стравай,
            цяплом,
                        чабаровай гарбатай.

А гаспадыня знянацку зірнула,
І асвятлілася ўсмешкаю хата.

Мілая тварам, вабная станам,
Столькі ва ўсёй прыгажосці і ласкі!..
— Ганна? — спытаў сарамліва я.
— Ганна.
— Скуль жа вы тут?
— Ды, вядома, не з казкі...

— Але ж адкуль?..
— Лесніком я працую...—
І пацякла, палілася бяседа.
— Вось на цікавых людзей мне шанцуе!..
— Досыць пра гэта, пара ўжо абедаць.

Мы паабедалі.
— Вы са сталіцы?
— Так.
— Тады выведу вас на дарогу.
— Дзякуй вялікі, мне тут не збіцца.
— Ну, тады з богам.

...Вось і канец!
Вось і ўсё маё рыцарства!
Я не прызнаўся ў пачуццях дзяўчыне.
Хата з чырвонымі аканіцамі
Больш свае дзверы мне ці адчыніць?

## ВЯСНЯНКА

Збягае сцежка к бальшаку
Каля альтанкі.
Куды ўцякаеш? Дай руку,
Мая вяснянка.

Куды ўцякаеш? Што нясеш
З сабой у сэрцы?
І ці да раніцы заснеш
У паняверцы?

Свяшчэнным будзе гэты луг
На развітанне,
І светлы месяца паўкруг,
І зорак ззянне...

Але чаму з вачэй сама
Спадае горыч?
І светлай радасці няма?
І знікла гордасць?

— Пасто-ой!..— гукаю далячынь,
Шукаю зладу.
Што́ крык! Хоць рукі надтачы
На даль пагляду.

Перацінае боль скразны
Душу і цела.
Ты прыляцела ў час вясны —
І адляцела.

* * *

Два берагі — Вясна і Зіма —
Нас
Раздзяляюць з табою.
На беразе белым — стаіш сама.
Зялёны — абраны мною.

Няўцешны лёс
Нашых двух берагоў,
Жыцця рака іх не злучыць.
Бераг твой — бераг белых снягоў.
Мой — бераг сонца... (Балюча!..)

І ўсё ж —
Без цябе не ўяўляю жыцця:
Скруха наскрозь праймае...
З зялёнага
берага пачуцця
Твой
белы бераг
гукаю.



Не ведаючы адрасу твайго,
Пішу табе на лёгкай аблачыне,
На зорным небе,
На пяску,
На гліне,
Зімой — на белым аркушы снягоў.

Свае каардынаты ў гэтым свеце
Даю табе:
Я там, дзе шэпча вецер,
Дзе граюць струны музыкі лясной,
Дзе неба сонцам — вокам Саваофа —
Глядзіцца ў воды,
Там мае ты строфы
У грэбнях хваль прызнаеш: я — з табой!

Кахай мяне і будзеш мной кахана.
І на зімовым гульбішчы вятроў
Адчуеш ты: я да цябе прыйшоў,
І радасць ад цябе не прыхавана.

Не ведаючы адрасу твайго,
Пішу
На белым аркушы снягоў...



Анічога ў адказ не скажу
На тваё:
«Зразумей і прабач...»
Плачам зойдуцца струны дажджу —
Будзе доўгім і нудным іх плач.

А пасля
Будзе золь і туман.
Будзе сівер шалёны зімы.
Ты сама праклянеш свой падман —
І тады
Зноў сустрэнемся мы.

Я скажу:
«Зразумей і прабач...»
Ты:
«Ва ўсім вінавата сама...»
І, нібы віртуозны скрыпач,
Нам на скрыпцы зайграе зіма!



Я толькі табе даверу
Свайго пацалунку шчырасць.
Вялікага шчасця радасць
Адна толькі ўчуеш ты.
У сэрцы маім бушуе
Не страшнае вогніва гневу,
У сэрцы ў мяне — кахання
Вясновы трапеча лісток.
Забудзься на ростаняў слёзы.
Забудзься на сум чакання.
З табою ўдваіх мы сёння
Злучылі свае шляхі.
У згодзе пачуццяў і лёсаў
Адна ў нас дарога будзе:
Мы зорным каўшом зачэрпнем
І вып'ем глыток жыцця.
Хай звоняць вясельныя чаркі!
Хай госці спяваюць песні!
Хай свецяцца твары нашы,
Як дрэвы пасля дажджу!

* * *

Ручанькі, ручкі белыя
Так неўпрыкмет залагодзілі...
Поўняй, зусім нясмелаю,
Ноч занялася над горадам.

Ягадка ты мая, ягадка,
Выспела-неперапспелая...
Ясная ты мая, ясная...
Светлая ты мая, светлая...



Зорных дажджоў прагавітасць імклівая,
Дрэў у шаптанні няхітрыя норавы...
Губы шчаслівыя і палахлівыя,
Водар духмяны свежага ворыва...

А салаўі непрыкаяна цёхкаюць:
Як па заказу — песні ўсё новыя...
Ох і салодкія ўдосталь, і цёплыя,
Ох і кароткія ночы вясновыя!

Ледзь далягляд заранiцаю схопiцца,
Ледзь парадзеюць сховы туманныя,
Сонцу падгледзець, вер, так і хочацца,
Дзе буркавалі ноч закаханыя.



Чаму не шэпча бор стары,
Узлесак голлейкам:
«Агонь маліннiку бяры
Рукамі голымі»?

Чаму не чутна салаўёў,
Абсяг знямеў зусім,
І нат лазіны вудаўё
На згіб не мае сіл?

Як згаварыліся кусты
Замерці цэлай талакой? —
Ані варушацца лісты,
Такі наўкол спакой.

Ды раптам: «Ты мяне крані —
Шчакой лагоднаю...»

І сум мой знік.
І ўсё звініць,
трапеча ўзгоднена...

## РАЗМОВА ПАСЛЯ ДАЖДЖУ

Ты быццам русалка
пасля праліўнога дажджу.
Збяжым на край свету!
Твайго не збаяўся пагляду...
Я промнямі сонца
твае валасы прычашу.
Я грэбенем ветру
русявыя пасмы прыгладжу.

— Люблю быць русалкай,
на сонцы ільсніцца, гарэць...
Але вечарэе —
пара ўжо вяртацца дахаты.
Там муж валасы мне прыгладзіць
(За ўсіх ён дабрэй!)
І высушыць іх
пад зялёнай сасной расахатай.



Машыны!
Сцішвайце гудкі
І рух увішны! —
Вясна...
Цалуюцца шпакі
На белай вішні.

Суладна кожны
То ўзляціць,
То зноўку сядзе,
І радасць
Песняю звініць
У мройным садзе.

Ах!
Малады птушыны баль,
Неверагодны.
Прадвызначаны ўжо амаль
Іх рай лагодны.

А ці хвіліны?
Ці вякі?
Ім думаць —
Лішне...
Часцей
Цалуйцеся, шпакі,
На белай вішні!

## РУСЯНЯНКА

### Паэма

*Ірыне*

1

Русянянка,
Якой не страчаў раней,—
Не спяшайся,
Не пакідай мяне.

Як штодня,
Завітай на зары
Да крынічкі,
На зёлках настоенай...
Гавары са мной, гавары
Светла,
        хараша,
                неспатольна.

Я дыханне тваё атулю —
Трапяткое,
Як снег гарачае.
Я цяплом цябе апалю,
Чараўніца мая
                нерастрачаная.

Неспазнаная мной як след,
Ты адорыш то шчасцем,
То болем:
Не пазбыцца тваіх мне ніколі
Светлых радасцей,
Выстылых бед!

Нераптоўна,
Зусім няўзнак

Ты з'явілася,
ўзнікла,
вырасла,
Стала дум маіх ясным выраем,
Звонкаграйным,
Нібы струна.

Русянянка,
Якой не страчаў раней,—
Не спяшайся,
Не пакідай мяне.

У забор'е збяжым з табой,
Жнівень сонца
З туману вынесем:
Як шкляныя,
Прасветляцца высі
Над табою
І нада мной.

Будуць ногі
Ў колкай расе,
Будуць промні
ільсніцца ў лужынах...
Заклінаю:
Стань мне толькі суджанай
На крутой
Жыцця паласе.

2

Там,
Дзе пах травастою п'яніць
Пад сырымі
альховымі схованамі,

Будзем жыць
Не прамовамі-змовамі,
Будзем месяц мядовы
мы піць.

І
Наструніцца постаць ажыны.
І
Заснеш у мяне на руках,
Як шапну
Пад павеў вецярка:
«Ты —
Мая Беатрычэ, Ірына».

«Ты —
Ма-я Бе-ат-ры-чэ,
Іры-на-а»,—
Лес паўторыць яшчэ і яшчэ.
І з тваіх
Невідушчых вачэй
Долу скоціцца
шчасця слязіна...

Дарагая!
Не трэба нямець.
Смейся зараз!
Спявай!
Весяліся!
Мы знайшліся на свеце.
Знай-
шлі-
ся-я!
Ты павінна сама зразумець.

Як належыць,
Павінна адчуць

Нашу еднасць
і наша адзінства:
Мы
Нанова змаглі нарадзіцца,
Свет па-новаму ўведаць,
пачуць.

У жыцці —
У віроў бурапене —
Не счарсцвеем з табою
душой.
У вясновай хадзе маладой
Будзе з намі —
Сумленне.

3

Ападзе дажджапад.
Снегапад
Белым прадзівам
Летнікі ўсцеле.
Быццам духу здароваму ў целе,
Буду гэтай нагодзе я рад.

Ты са мной...
І пяшчотнай, зямной
Быць табе
У маіх уяўленнях.
Заклінаю
без шэптамалення:
Не астынь
У пачуццях адно!

Не азвыкніся
З лютасцю ветру,

З ціхай млявасцю
Першых адліг!

На шляхах-пуцявінах зямных
У тваю першаіснасць я веру.

4

Русянянка,
Якой не страчаў раней,—
Не спяшайся,
Не пакідай мяне.
Падары
Самы казачны дар —
Губ сваіх ссаладзелых чаканне,
Ранне ўсмешкі,
Душы хваляванне,
Шчокаў неўтаймаваны пажар...

...Спеўна сэрцы зайшліся ў цішы,
Хоць іх спеў
Ветахом запішы
Ў векавечную Кнігу кахання...
Зноў займаецца
Наша світанне,
І навокал — ніводнай душы.

## ЗМЕСТ

## РУСЯНЯНКА

**Жук К.**

Ж 85 Зямная ноша: Вершы і паэма.— Мн.: Маст. літ., 1988.— 118 с., іл.

ISBN 5-340-00046-X

Вырас новы чытач, новы слухач, які карэнна адрозніваецца ад чытача і слухача ранейшага. Змяніліся густы людзей. Адбылася трансфармацыя нашых стэрэатыпных уяўленняў, адносін, паводзін. Змяніўся сам чалавек. Толькі як? Стаў ён дабрэйшым і чысцейшым у сваіх памкненнях — ці больш чэрствым, практычным, запраграмаваным? На гэта спрабуе знайсці адказ аўтар у сваім зборніку «Зямная ноша».

$Ж \frac{4702120200-006}{М\ 302(03)-88}$ 46—88 ББК 84Бел7

*Литературно-художественное издание*

**Жук Константин Яковлевич**

ЗЕМНАЯ НОША
Стихи и поэма

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Жук Канстанцін Якаўлевіч**

ЗЯМНАЯ НОША
Вершы і паэма

Рэдактар Л. В. Дранько-Майсюк
Мастак С. А. Кузьмар
Мастацкі рэдактар А. М. Малышава
Тэхнічны рэдактар Л. М. Шлапо
Карэктар Т. В. Трубач

ІБ № 2632
Здадзена ў набор 10.07.87. Падп. да друку 13.11.87. АТ 07736. Фармат 70×90¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 4,39. Ум. фарб.-адб. 4,54. Ул.-выд. арк. 3,61. Тыраж 2100 экз. Зак. 624. Цана 40 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

